

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№10 (кастрычнік), 2016

# Мяжа




**Правы чалавека ў сферы працы – Вашыя правы!**

(старонка 9)

## ЗЬМЕСТ

## Дапамога будучым выпускнікам

2 кастрычніка ў Берасці эксперты праграммы «Размеркаванне БАСС» (Братства арганізатараў студэнцкага самакіравання) у праваабарочным цэнтры “Берасцейская Вясна” правялі мерапрыемства па пытаннях размяркавання студэнтаў.




У ролі мадэратара на мерапрыемстве выступіла Крысціна Мурашова, якая мае 2-х гадовы досвед кансультавання выпускнікоў ВНУ і маладых спецыялістаў.

У мерапрыемстве прынялі ўдзел выпускнікі берасцейскіх навучальных устаноў.

Крысціна Мурашова з калежанкай Веранікай Паддубіцкай паднялі такія важныя пытанні, як: падсавы заканадаўства аб размяркаванні; актуальныя кейсы па тэме, распавялі пра реальныя гісторыі маладых спецыялістаў.

Удзельнікі мерапрыемства атрымалі кансультацыі па канкрэтным пытанням:

- Ці звальняе шлюб ад размеркавання?

- Ці мусіць працадаўца прадстаўлять жытло і якія ёсть ільготы для маладых спецыялістаў?

- Што рабіць, калі працадаўца не жадае браць на працу?

- Што рабіць маладому спецыялісту, калі прапрыемства распалася або ідзе скарачэнне аддзела?

- Ці магчыма паступіць у магістратуру за мяжу?... і шмат іншых.

Тыя, хто ня ведае аб праграмме «РАСПРЕДЕЛЕНИЕ БОСС», можа атрымаць інформацыю на facebook.com/belarusboss

## Сусьветны дзень аховы жывёл

4 кастрычніка увесь сьвет адзначае «Сусьветны дзень аховы жывёл».




У 1931 гаду ва Фларенцыі на Міжнародным кангрэсе абаронцаў прыроды гэты дзень быў вызначаны ў абарону іншых па-за чалавекам жывых істот, каб чалавецтва з’вярнула ўвагу на праблемы гэтых жыхароў планеты.

Дата 4 кастрычніка была выбрана ў дзень памяці аднаго з вядомых каталіцкіх сьвятых – Францыска Асізскага (1182-1226).

Францыск Асізскі з’яўляўся заснавальнікам манашанскага ордэна Францысканцаў, прапаведваў любовь і літасьць да ўсякай жывёліны, пытаўся замяніць ідэю аб бязмежнасці ўладаньня чалавека на ідэю

роўнасці ўсіх жывых істот. Францыск Асізскі лічыцца апекуном жывёл.

У гэты дзень у шматлікіх краінах сьвету адбываюцца мерапрыемства, каб дапамагчы жывёлам, каб выхаваць у людзей адказныя адносіны да братоў нашых меньшых.

Гэта сьвята падзякі і любові да сьвета жывой прыроды. У гэты дзень мы рады таму, што побач з намі жывуць цудоўныя чатырохлапыя, пернатыя і хвастатыя сябры...

## Алесь Мех падзякаваў усім, хто за яго галасаваў

Грамадскі актывіст Алесь Мех на свае сродкі выдаў зварот да жыхароў Кобрыня і раёна. У звароце ён падзякаваў усім, хто за яго галасаваў.



А таксама расказаў пра фальсіфікацыі, якія зрабілі яго перамогу немагчымай, кажа Алесь Мех:

– Ведаю, што мы перамагалі на ўсіх выбарчых участках як у Кобрыні, так і Кобрыньскім раёне. За нас галасавалі цэлымі кварталамі і цэлымі вёскамі. Мы пішам пра тое, што выбары былі сфальсіфікаваныя, што нашых назіральнікаў да падліку галасоў увогуле не падпусцілі.

Паводле Алеся Меха, улады ведалі, каму свае сімпатыі аддасць мясцовы электарат, таму ў дзень галасавання ў Кобрынь быў уведзены АМОН, які трымаў горад у аблозе яшчэ тыдзень пасля галасавання.

http://www.racyja.com/hramadstva/ales-mekh-padzyakavau-usim-khto-za-yago-ga/

## Бярозаўскім грамадскім актывістам дазволілі пікет

Бярозаўскія чыноўнікі далі дазвол праваабаронцам і грамадскім актывістам на пікет 7 кастрычніка. Але пры ўмове, што тыя прымуць кампрамісны варыянт пераносу пікету з Цэнтральнага стадыёну на стадыён Паўночны на ўскрайку горада.

У заяўнікаў пікету выбару не было пры тым, што дазвол афіцыйна быў атрыманы 1 кастрычніка, кажа праваабаронца і адзін з заяўнікаў пікету Сяржук Русецкі:

– Пасля столькіх гадоў змагання за магчымасць правядзення пікетаў у Бярозе, нам дазволілі трэці пікет. Тым не менш, згодна з рашэннем выканкама аб правядзенні масавых мерапрыемстваў у Бярозаўскім раёне, для таго, каб гэты дазвол застаўся, нам трэба заключыць дамовы з міліцыяй, раённай бальніцай і ЖКГ на абслугоўванне пікета да 6-га кастрычніка. Іначай дазвол будзе скасаваны.

7 кастрычніка – Сусветні Дзень супольных дзеянняў за дастойную працу. Гэтым пікетам праваабаронцы і актывісты напомняць працоўным, што для задавальнення сваіх інтарэсаў трэба яднацца, каб разам бараніць свае правы на добрааплочваемую працу і прыстойны лад жыцця.

http://www.racyja.com/hramadstva/byarozauskim-gramadskim-aktyvistam-d/

## У Берасці абмеркавалі сітуацыю вакол чачэнскіх уцекачоў

Валанцёры і праваабаронцы з Human Constanta чарговы раз дыскутавалі з нагоды сітуацыі, якая склалася вакол каўказскіх мігрантаў у Берасці. Вядома, што беларускія актывісты супрацоўнічаюць з калегамі з польскага боку, каб дапамагчы ім запусціць механізм, які прадугледжаны міжнароднымі і нацыянальнымі прававымі нормамі. Аб матывацыі дапамогі мігрантам кажа валанцёр Таццяна, якая прысутнічала на дыскусіі:

– Матывацыя простая – гэта людзі, якія трапілі ў складаную жыццёвую сітуацыю, а я знаходжуся побач. Чаму б не дапамагчы? Гэта звычайнае чалавечае суперажыванне. Я з такімі не сустракалася, але заўсёды ёсць шанец, што сярод бежанцаў ёсць

„эканамічныя мігранты”, якія скарыстаўшыся сітуацыяй, хочуць трапіць у Еўропу. Паколькі мы займаемся праваабарончай дзейнасцю, то мяне больш цікавіць пытанне, каб выконваліся міжнародныя абавязацельствы з боку Польшчы.

Акрамя дыскусіі, чарговы раз адбыўся паказ французскага фільму “Чачня, вайна без следу” аўтарства Манон Луазо, у якім прадстаўлена адрозная ад афіцыйнай версія жыцця ў Чачэнскай Рэспубліцы. Удзельнікі сустрэчы выказалі свае меркаванні адносна матывацыяў людзей, якія шукаюць прытулку, крызісных сітуацый, якія могуць узнікнуць на гэтай глебе і іншых пытанняў. Пераважная большасць берасцейцаў па-ранейшаму выказвае свае думкі адносна сітуацыі вакол мігрантаў пераважна на інтэрнэт-форумах і не прымае шырокага ўдзелу ў падобных дыскусіях.

http://www.racyja.com/hramadstva/u-berastsi-abmerkavali-situatsyyu-vakol/

## Берасцейцы не пакінуць без дапамогі тых, каму яна патрэбна

А патрэбна дапамога чачэнцам, якія вымушаны жыць на вакзале. Едучы ў Польшчу, яны ніяк не думалі затрымлівацца на Беларусі на некалькі месяцаў.

Жанчыны расказваюць, што няёмка ім прасіць што-небудзь. Але, што ж рабіць? Дзецям, як і дарослым, не хапае цёплых рэчаў, абутку, ежы.

Сябры “Берасцейскай вясны” актыўна працуюць над лёсам уцекачоў. Валанцёры (звычайныя людзі, не ад якой-небудзь арганізацыі) прыходзяць на вакзал з ежай. Прыносяць таксама курткі, абутак, цёплыя кофты. Ксенія (валанцёр) кажа: “ Няма віны гэтых людзей у тым, што апынуліся яны ў такім становішчы. Таму не магу не дапамагчы ім. Асабліва шкада дзетак. Тут яны ўсіх узростаў”.

Сапраўды, багата на вакзале дзяцей. А гэта слабыя арганізмы, асабліва ў такіх абставінах, калі на вячэру – ролтан, а на снеданне не заўсёды гарбата. Дзеці хварэюць, таму патрэбны лекі. А самаму маленькаму (8 месяцаў) патрэбны памперсы. Ёсць людзі, каторыя бяруць на сябе адказнасць і водзяць малых да ўрачоў. Нехта бярэ да сябе на некаторы час сям’ю, нехта забірае рэчы чачэнцаў, каб




памыць іх.

“Ёсць добрыя людзі, каторыя пускаюць да сябе ў хату, пагрэцца, памыцца. Гэта вельмі добрыя людзі. Яны думаюць аб нас, і гэта вельмі дапамагае нам. Дзякуй”, - дзеліцца з намі Фаіда.

Просім Вас таксама прыняць ўдзел ў такой важнай справе. Коўдры, абутак, курткі, шапкі, штаны, лекі, памперсы, ежа вельмі патрэбны людзям, якіх Вы знойдзеце на чыгуначным вакзале ў залі чакання.

## 7 кастрычніка – Сусветны дзень дзеянняў за годны труд

Пачыная з 2008 года па ініцыятыве Міжнароднай канфедэрацыі прафсаюзаў праводзіцца гэты дзень. Годны труд – залог сацыяльнай стабільнасці, сацыяльнага роста і развіцця краіны. Прафсаюзы ўсяго міра сумесна выступаюць за забяспячэнне ўсіх працоўных годным трудом. Таму што кожны чалавек павінен мець магчымасць атрымаць работу, каторая б забяспечыла годны ўзровень жыцця.




Брэст – адзіны горад, у якім мясцовая ўлада дазволіла правесці пікет на Сусветны дзень годнай аплаты труда. Брэсцкі гарвыканкам даў знаць прафсаюзу РЭП, што не мае нічога супраць правядзення мерапрыемстваў у гэты дзень.

Зінаіда Міхнюк, старшыня прафсаюза РЭП, распавяла, што на пікеце рэч будзе весціся пра тое, што ж гэта, годны труд і, галоўнае, годная аплата.

Адбудзецца акцыя 7 кастрычніка з 16.00 да 18.00 у парку Воінаў-Інтэрнацыяналістаў.

## Правы чалавека ў сферы працы – Вашыя правы!

7 кастрычніка Берасцейская арганізацыя прафсаюза РЭП правяла пікет з нагоды Сусветнага дня дзеянняў за годны труд. Падзея адбывалася ад 16 да 18 гадзіны ў парку Воінаў-Інтэрнацыяналістаў.

Зінаіда Міхнюк, рэгіянальны старшыня прафсаюза РЭП, распавяла, што Брэст – не адзіны горад, у якім мясцовая ўлада дазволіла правесці пікет, пікеты праходзілі ў Баранавічах і Бярозе…




Да пікетоўцаў у Берасці далучыліся прадстаўнікі Пінску, Каменца і, нават, Салігорску.

Пікетоўцы разгарнулі сцягі, расцяжкі і плякаты: “Кантракт – рабства для рабочага кляса”, “Працу і справядлівасць!”, “Не павышэнню пенсійнага веку”, “Эўрапейскім цэнам – эўрапейскія заробкі”, “Працуючы чалавек не павінен быць бедным”, “Без годных заробкаў няма годных пенсій”, “Росту цен – апяраджальны рост заробкаў і пенсій”, “Правы чалавека ў сферы працы – Вашыя правы!”…

Раздавалі газеты “Рабочая Салідарнасць” і “Народная Воля”. Выпуск “Народнай Волі” быў прысвечаны неадназначнай праблеме - адмене Смяротнага пакарання ў Беларусі…

Неўзабаве з боку выканкама пацягнуліся людзі, яны жыва цікавіліся мерапрыемствам і ўважліва знаёміліся з друкаванай прадукцыяй, якую распаўсюджвалі пікетоўцы.

Карэта “хуткай дапамогі” прысутнічала адпаведна заключанай дамовы, але ня доўга. За непатрэбай арганізатар пікету яе адпусціла.

Удзельнікі пікета выказалі незадаволенасць адлюдным месцам у

якім праводзіўся пікет і выказалі жаданне прыкласці намаганні, каб гарацкія ўлады вызначылі больш зручныя для грамадзян месцы для правядзення масавых мерапрыемстваў.

## Берасцейскія праваабаронцы кажуць НЕ смяротнаму пакаранню

10 кастрычніка - Сусветны дзень барацьбы супраць смяротнага пакарання. У 2007 годзе Камітэт міністраў Савета Еўропы заснаваў "Еўрапейскі дзень барацьбы супраць смяротнага пакарання".

Прыхільнікі абаліцыяніснцкага руху выступаюць супраць смяротнага пакарання ва ўсіх выпадках без выключэння, незалежна ад характару злачынства, характарыстык злачынцы і спосабу, якім дзяржава пазбаўляе жыцця асуджанага. Смяротнае пакаранне яны расцэньваюць як крайнюю форму пазбаўлення чалавека яго правоў - праз наўмыснае пазбаўленне жыцця дзяржавай. Гэта жорсткае, антыгуманнае і прыніжаючае чалавечую годнасць пакаранне. Смяротнае пакаранне парушае права на жыццё, абвешчанае ў Сусветнай дэкларацыі правоў чалавека.

На еўрапейскай прасторы Беларусь застаецца апошняй краінай, дзе практыкуецца смяротнае пакаранне.

У Беларусі смяротны прысуд прыводзіцца ў выкананне спецыяльнай камандай супрацоўнікаў МУС у СІЗА № 1 горада Мінска шляхам расстрэлу. Як і ў савецкія часы, пра дату і час пакарання не паведамляецца, цела сваякам пакаранага не выдаецца, месца пахавання не паказваецца..

Пачынаючы з 5 кастрычніка беларускія праваабаронцы праводзяць мерапрыествы прысвечаныя адмене смяротнага пакарання

Берасцейскія праваабаронцы таксама выступілі за адмену смяротнага пакарання, нагадалі берасцейцам аб гэтай неадназначнай праблеме, раздалі сотні нумароў спецвыпуска газеты «Народная Воля» адмыслова прысвечаны праблеме смяротнага пакарання. агуль па

Мы запыталі берасцейскіх праваабаронцаў: «Ці патрэбная смяротная кара у Беларусі?»




Праваабаронца Дзяніс Турчаняк: «Смяротнае пакаранне не патрэбнае. Хворых трэба лекаваць, а небяспечных – ізаляваць ад грамадства».

Праваабаронца Ўладзімір Малей: «У якой заўгодна таталітарнай дзяржаве смяротная кара выкарыстоўваецца для запалохвання насельніцтва, і у той сама час колькасць забойстваў не змяншаецца...

Патрэбная палітычная воля кіраўніцтва краіны для прыняцця рашэння аб адмене смяротнага пакарання, ці прынамсі мараторыя, як гэта зроблена ў іншых Эўрапейскіх краінах, дзе паважаюць правы і свабоды грамадзян».

Праваабаронца Ўладзімір Вялічкін: «Мы раздалі некалькі соцен газет. Людзі ахвотна бралі некаторыя казалі, што «Народная Воля» гэта газета, якая піша праўду, а астатнія вядома што...

**Многіх я пытаўся, што рабіць з забойцамі. Адказы былі розныя, але ні водны не сказаў – забіць.**

Грамадства дастаткова свядомае, каб адмовіцца ад смяротнага пакарання, нават апошні выпадак забойства бензапілой не паўплываў на грамадзкую думку. Некалькі дзён таму на «БТ» адзін

вядучы задаў гледачам правакацыйнае пытанне: «А калі ён (прысуджаны на смерць) 5 чалавек забіў, што з ім рабіць?»

Людзі ўжо набылі пэўны імунітэт на дзяржаўную прапаганду, і маніпуляваць грамадскай думкай, як раней, ужо не атрымліваецца. Эмоцыі адышлі ў бок. Я бачу **сёння беларусы – за адмену смяротнай кары!**».

## Былыя кандыдаты ў дэпутаты ў Берасці аб’яднаюцца для сумеснай працы

Былыя кандыдаты ў дэпутаты ў Берасці аб’яднаюцца для сумеснай працы ў паслявыбарчы перыяд. Пра гэта паведаміла лідар берасцейскай абласной арганізацыі Аб’яднанай Грамадзянскай партыі Дыяна Касцюковіч. Разам палітыкі будуць працаваць на выбарчых акругах і потым балатавацца на мясцовыя выбары. Дыяна Касцюковіч адзначыла, што на пляцоўцы будуць выносіцца пытанні як палітычнага, так і сацыяльнага характару:

— Мы будзем ствараць пляцоўку для кантактаў з былымі кандыдатамі ад розных партый, не толькі правацэнтрысцкай кааліцыі. Усе ахвотныя, каму неабыякавы лёс Беларусі, могуць далучацца і размаўляць, выказваць сваё меркаванне. Мы будзем таксама працаваць у сацыяльных намкрамках, выяўляць і агалошваць праблемы грамадзян.

Прадстаўнікі партый на Берасцейшчыне плануюць пачаць падрыхтоўку да мясцовай кампаніі на пачатку 2017 года. Пакуль яны будуць занятыя працай з выбаршчыкамі актывам сваіх партый.

http://www.racyja.com/palityka/bylyya-kandydaty-u-deputaty-u-berastsi-a/

## 18 кастрычніка 420-ыя ўгодкі абвяшчэння Берасцейскай царкоўнай Уніі, узгадаем з гэтай нагоды і народнага паэта Беларусі

18 кастрычніка (8 кастрычніка — паводле старога стылю, якім карысталася тады Ўсходняя Царква) 1596 году на саборы ў Берасьці была абвешчана царкоўная Унія http://carkva-gazeta.by/index.php?l=1&page=3&his=21.

Сёлета 420-ыя ўгодкі гэтай знакавай падзеі ў гісторыі ўсёй



Усходняй Еўропы.

Узгадваем сёньня з гэтай нагоды і народнага паэта Беларусі, які быў вернікам Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. Ён з гонарам казаў заўсёды, што ён — прыхільнік Уніі, еднасьці хрысьціянаў, што адлюстроўваў у сваіх вершах. Знаходзяцца, на жаль, сёньня асобы, якія абражаюць памяць гэтага цудоўнага чалавека і выдатнага паэта, ставячы яму ў загану і яго веравызнаньне. Толькі хто яны, а хто ён! Пасьля дзядзькі Рыгора засталіся яго шматлікія творы, а што пакінуць пасьля сябе тыя бязродныя недарэкі?

Верш «БЕРАСЬЦЕЙСКАЯ ВУНІЯ» Рыгора Барадуліна для ўшанаваньня памяці паэта і на ўспамін сёньняшняй гістарычнай падзеі 420-гадовай даніны.

Каб народ набожны не зьняверыўся
Перад раздарожжам дзьвюх дарог,
Вернасьць з вернасьцю
Сышліся ў Берасьці
У вадну, якую ўбачыў Бог.
І сышліся ціха два ў вадно палі
Каласіцца вераю бацькоў.
Сьвечкі ў Рыме і ў Канстанцінопалі
Засьвіталі ў позірках вякоў.
Кленчыць цень крыжа перад іконаю.
Горбяцца зьняверу валуны.
І зьвіняць са дна душы сьвянцонае
Берасьцейскай вуніі званы.

**Ігар Бараноўскі, краязнаўца**

## Праваабаронцы пратэстуюць супраць суда над Рыгорам Грыкам

Баранавіцкія праваабаронцы і экс-кандыдат на выбарах у Парламент Рэспублікі Беларусь Мікола Чарнавус (старэйшы) пратэстуюць супраць суда над даверанай асобай Чарнавуса Рыгорам Грыкам у яго адсутнасць. Яны напісалі скаргу ў Кнігу скаргаў суда Баранавіцкага раёна пра незаконнасць намераў суддзі Аксаны Копач 25 кастрычніка працягнуць працэс, кажа праваабаронца Сяргей Гоўша:

– Мы пайшлі ў суд, патрабавалі Кнігу скаргаў, і зрабілі запіс пра тое, што суддзя заявіла, што будзе праводзіць працэс без Грыка. Яго няма, ніхто не ведае, дзе ён. Шукайце! Без чалавека суда не мусіць быць.

Паводле Сяргея Гоўшы, на адным з перадвыбарчых пікетаў Міколы Чарнавуса, на Рыгора Грыка быў складзены пратакол як бы за правядзенне незаконнага пікету. Пікет быў законны, але апрануты Грык быў у паласатую робу, стылізаваную пад канцлагернае адзенне. Улады проста распраўляюцца з Грыкам за яго грамадзянскую пазіцыю і паласатую робу, якая стала на пікетах яго візітоўкай.

http://www.racyja.com/hramadstva/pravaabarontsy-pratestuyuts-suprats-s/

## Праблема ў корані

У Берасьці, падчас курсаў «Мова нанова», прайшла сустрэча з філолагам, мовазнаўцам, аўтарам і вядучым моўных радыёперадач Вінцуком Вячоркам.

“Родная мова – лёгка, эканомна, сучасна, практычна”, - паведаміў спадар Вячорка.

Мовазнаўца распавёў пра гісторыю словаў са штодзённага жыцця расейскамоўных беларусаў, пра асаблівасьці моўнай сытуацыі ў Берасьці паводле апошняга перапісу насельніцтва, статыстыку ўжывання беларускай мовы.

Слухачы задалі шмат пытаняў: іх цікавіла, як правільна пісаць па-беларуску імёны сваіх продкаў, пасьмяяліся зь перакладу вуліцы Вароўскага на «Зладзеева» на афіцыйным сайце.

Узнялі пытанні практыкі ўжываньня слова «брэстаўчане» замест




«берасьцейцы».

«Галоўная праблема тут ня ў суфіксе. Галоўная праблема тут у корані. Ня „Брэст“, а Берасьце, першакорань якога „берaст“, таму і націск на першы склад. Рана ці позна мы даможамся, што беларускія назвы вернуцца і для Менску, і для Хвойнікаў, і для Горадні, і для Берасьця,» — адказаў Вінцук Вячорка.

Спадар Вінцук Вячорка таксама прэзэнтаваў сваю кнігу «Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам». У кнізе сабраныя нарысы пра беларускую мову, што гучалі на хвалях і публікаваліся на сайце Радыё Свабода у 2014-2016 г

Напрыканцы сустрэчы кожны наведвальнік змог атрымаць у падарунак кніжку з подпісам аўтара.

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобнікаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»